*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*





# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 15 (279) | 10 красавіка 1996 г. | Кошт — 1000 рублёў



*Сведчанні*
ЗА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ — ДУБІНАЙ ПА ГАЛАВЕ
Стар. 2.





*Братэрства*
РОДНЫ ЧАЛАВЕК У ПРАЗЕ
Стар. 4.




## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **БЕЛАРУСКУЮ СТАЛІЦУ Ў ЧАРГОВЫ РАЗ НАВЕДАЛА** дэпутат Еўрапарламента, старшыня пастаяннай дэлегацыі Еўрапарламента па супрацоўніцтву з Украінай, Беларуссю і Малдовай сп. Элізабет Шродтэр. Гаворачы пра нашу краіну, яна сказала: «На Захадзе не ведаюць, чым закончыцца актывізацыя адносінаў паміж Расіяй і Беларуссю. Многія палітыкі лічаць, што Беларусь не будзе ў далейшым самастойнай, а стане часткай Расіі. Я спрабую процістаяць такім выказванням, паколькі бачу ў Беларусі патэнцыял для ўласнага развіцця, але мне апошнім часам усё цяжэй і цяжэй становіцца гэта рабіць». І як тут не прыпомніць, што збоку заўсёды лепей бачна.

○ ***ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ЎПЕРШЫНЮ ДАЎ ІНТЭРВ'Ю КАРЭСПАНДЭНТУ БЕЛАРУСКАЙ РЭДАКЦЫІ РАДЫЁ «СВАБОДА».*** *Гаворачы пра саюз з Расіяй, А.Лукашэнка сказаў: «Мы заключаем саюз у вельмі мяккай форме, каб не бударажыць насельніцтва. Я ніколі не згаджуся на ўключэнне сваёй цудоўнай рэспублікі з яе талерантным народам у састаў любой дзяржавы... Мы суверэнная, незалежная дзяржава! Што, вы лічыце, што я сёння ў сваё крэсла Прэзідэнта некага пасаджу? Не! Я — кіраўнік дзяржавы! Я ніколі ў жыцці не здам сваю дзяржаву, свой народ, за які я адказваю». Дай Бог, каб так было!*

○ **У МЕНСКУ ПРАЙШОЎ III КАНГРЭС ЛІГІ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПАРТЫЙ МІЖМОР'Я (БАЛТЫЙСКА-ЧАРНАМОРСКАГА РЭГІЁНА).**

○ ***ПАМІЖ НАШАЙ КРАІНАЙ І ЕЎРАПЕЙСКІМ СУПОЛЬНІЦТВАМ*** *падпісана Часовае пагадненне аб гандлі і звязаных з гандлем пытаннях.*

○ **ГРУПА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ НАШАЙ КРАІНЫ НАВЕДАЛА ПРАГУ.** Галоўная мэта паездкі — паспрыяць адкрыццю помніка Францішку Скарыну, які менавіта ў Празе друкаваў свае першыя кнігі, а таксама ўшанаваць памяць нашых землякоў, якія тут вучыліся і жылі. Пытанне аб помніку Скарыну чэшскімі ўладамі вырашана станоўча.

○ ***У МЕНСКУ ПРАЙШОЎ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ ЧАРНОБЫЛЬЦАЎ.*** *Ініцыятарам і арганізатарам яго была Беларуская асацыяцыя чарнобыльскіх арганізацый «26 красавіка» пры падтрымцы Міністэрства культуры, Мінгарвыканкама і Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароны насельніцтва ад наступстваў катастрофы на ЧАЭС.*

○ **НАПРЫКАНЦЫ САКАВІКА Ў ГАРАДСКІМ ПАСЁЛКУ УЗДА ПРАЙШОЎ** заключны тур Першага нацыянальнага фестывалю беларускай байкі. Мерапрыемства было прымеркавана да 100-годдзя Кандрата Крапівы.

# *На пустыні — гуканне вясны*

У Менску апошняй сакавіцкай суботай сабраліся прыхільнікі беларушчыны, аматары роднага слова. Сустрэчу падрыхтаваў аргкамітэт Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Зацікаўленасць гэтай праблемай і неабходнасць такой канферэнцыі даказана — калектыўнымі сябрамі аргкамітэта сталі 52 партыі ды грамадскія арганізацыі і рухі, у тым ліку: Аб'яднанне яўрэйскіх арганізацый і абшчын, Асацыяцыя ўкраінцаў Беларусі «Ватра», Беларускае згуртаванне татараў-мусульман «Аль-Кітаб», Польскае культурна-асветнае таварыства «Палонія», Саюз палякаў Беларусі. На канферэнцыю сабралася пераважна навуковая інтэлігенцыя з усёй Беларусі, афіцыйна зарэгістраваліся 218 удзельнікаў, чвэртка якіх — кандыдаты, дактары навук, дацэнты і прафесары ВНУ, а таксама настаўнікі, рабочыя, студэнты гістарычнага факультэта БДУ, менскіх дзяржаўнага медыцынскага інстытута і педагагічнага коледжа.

Удзельнікаў канферэнцыі прывітаў старшыня ТБМ Ніл Гілевіч, пасля чаго пачаліся выступленні. Былі прачытаныя тры пленарныя даклады: доктара гістарычных навук Леаніда Лыча «Беларуская мова як аб'ект дзяржаўнай дыскрымінацыі (гістарычны аспект)», доктара філалагічных навук Генадзя Цыхуна «Дэфармацыі ў сістэме беларускай літаратурнай мовы ў гады таталітарызму», кандыдата філалагічных навук Лявона Баршчэўскага «Беларуская мова на палітычнай арэне Беларусі канца 80-х — сярэдзіны 90-х гадоў». Спадар Баршчэўскі гаварыў пра тое, што яшчэ ў мінулым стагоддзі значная частка беларускай інтэлігенцыі адмовілася ад роднай мовы, што і цяпер у краіне, у якой камуністаў параўнаўча больш, чым дзе б то ні было ў свеце, ды панавалі матэрыялізм і бязбожжа, інтэлігенцыя стала прагматычнай. Стан нашай роднай мовы — вынік дзейнасці беларускай інтэлігенцыі.

Дык што рабіць? Будзіць інтэлігенцыю? Відаць, варта пачаць менавіта з яе, з настаўнікаў, выкладчыкаў. Тым больш, што той-сёй ужо і сам адчуў патрэбу вярнуцца да роднага. У зале канферэнцыі я ўбачыў аднавяскоўца, сябра дзяцінства, які яшчэ некалькі гадоў таму толькі зрэдку ўстаўляў у гаворцы знаёмае з калыскі слоўца. А цяпер ён, фізік, ужо каторы год чытае курс тэарэтычнай механікі на беларускай мове. Мы ўжо маем дастаткова аргументаў на карысць магчымасцяў нашай мовы. У выступленнях згадваліся падрыхтаваныя слоўнікі па матэматыцы, фізіцы, падручнікі і матэматычная энцыклапедыя на беларускай мове. Сам склад удзельнікаў канферэнцыі, дзе пераважалі нефілолагі, якія, уключна з настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры, яшчэ не могуць пазбыцца комплексу непаўнацэннасці, ды пасіўнасць навукоўцаў з акадэмічнага інстытута мовазнаўства сведчыць, што варта звяртацца да тэхнічнай і навуковай інтэлігенцыі. І выступы «нефілолагаў»-матэматыкаў Тамары Сухой і Васіля Юферава, фізіка Юрыя Хадыкі, гісторыка Валянціна Мазца, біёлага Язэпа Стапановіча, прафесара эканамічнага ўніверсітэта Міколы Савіцкага, юрыста Ігара Нямкевіча былі найбольш канкрэтнымі, зацікавілі слухачоў.

Прыемна здзівіла прысутнасць медыкаў, як прафесараў, так і студэнтаў. Адчуваецца, што менавіта яны, хто турбуецца пра здароўе беларусаў, зразумелі, што патрэбна беларусу, каб ён быў здаровы, каб змог не толькі выжыць, але і жыць палюдску. Прысутныя з асаблівай цеплынёй віталі студэнтку медыцынскага інстытута Ганну Бурак, якая расказала, што ў іх ёсць два беларускамоўныя гурты — 45 студэнтаў, што маладыя медыкі шмат папрацавалі над стварэннем беларускага медыцынскага слоўніцтва, што беларуская медыцынская тэрміналогія значна лепш адпавядае лацінскаму медыцынскаму назоўніцтву.

У выступленні яшчэ аднаго студэнта-медыка Алега Федаровіча (цалкам яго прачытаеце ў наступным нумары) былі закрануты маральна-этычныя праблемы стаўлення да роднай мовы. Ён параўнаў Беларусь з пустыняй. Ды калі ўжо не адыходзіць ад вобразна-эмацыянальнага адчування канферэнцыі, то яе можна назваць гуканнем вясны.

Менавіта адным жаданнем наблізіць вясну беларушчыны былі прасякнуты некаторыя выступленні. Канферэнцыя ўяўляецца толькі пачаткам вялікай і цяжкой працы дзеля вяртання роднай мовы народу, таму, відаць, і прагучала прапанова ладзіць падобныя канферэнцыі пастаянна, рэгулярна. Адну з наступных варта, мабыць, прысвяціць трасянцы. Вывучаць гэтую моўную з'яву прапанаваў вядомы наш філосаф, прафесар Мікола Крукоўскі, які сказаў, што наша мова прабіваецца праз трасянку, як праз асфальт. Ён, дарэчы, выказаў меркаванне, што расійская мова паўторыць лёс іншай імперскай мовы — лацінскай, якая калісь насаджалася, а стала мёртвай мовай. Нядаўнія паведамленні пра стварэнне пры прэзідэнце Расіі спецыяльнай камісіі па праблемах расійскай мовы, здаецца, пацвярджаюць такое меркаванне. Хоць і выступілі 53 удзельнікі, усіх набалелых праблемаў не ўдалося ні згадаць, ні развязаць. Канферэнцыя падалася больш навуковай, а яна павінна быць больш практычнай. З гэтага боку варта глянуць і на абяцанне аргкамітэта выдаць даклады і паведамленні, што прагучалі на канферэнцыі. Магчыма, у наш час усё ж больш мэтазгодна было б выдаць нейкую кнігу ці шэраг брашураў дзеля прапаганды лепшых твораў нашай літаратуры, таго ж Міколы Гусоўскага, Яна Баршчэўскага, казкі, перакладзеныя на беларускую мову, папулярныя творы заходнееўрапейскай літаратуры (тыя, што выдаваліся, раскупліваліся вельмі хутка). А недахоп такіх кніг, як сказала прафесар БДУ Ірына Шаблоўская, адбіваецца на выхаванні асобы.

Удзельнікі канферэнцыі прынялі некалькі зваротаў (яны публікуюцца ў гэтым нумары «НС»). З трыбуны канферэнцыі прагучалі словы трывогі за лёс мовы іншых моўных груп, што жывуць на Беларусі, а таму было вырашана звярнуцца да міжнароднай супольнасці. Як згадаў прафесар М.Савіцкі, Савет Еўропы прыняў меры дзеля выратавання мовы ідыш, а цяпер вось і наша мова, якая фактычна стала мовай нацыянальнай меншасці, мае права — на гэтым заакцэнтаваў увагу прафесар Адам Мальдзіс — на абарону з боку міжнароднай супольнасці.

Звярталася ўвага на асаблівую маральную адказнасць беларускіх настаўнікаў за магчымыя наступствы нежадання вучыць беларускіх дзяцей на мове карэннага народа, выхоўваць у іх нацыянальную годнасць. Варта было б ім задумацца, каго некаторыя з іх ужо выхавалі, хто цяпер дзякуючы ім выходзіць з сцен школы — часцяком духоўныя люмпены. Няхай бы такія нарэшце задумаліся, што яны ці не адзіныя ў свеце, хто свядома прывівае дзецям пагарду да роднага. Няхай бы задумаліся, ці маюць яны тады маральнае права выхоўваць маладое пакаленне Беларусі.

Спец.кар. «НС».

Ніл Гілевіч
ЛЮБОЎ ПРАСВЕТЛАЯ
Роздумы у вершах і прозе аб роднай мове

***У кнігарнях з'явілася новая кніга народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча, якую ён абазначыў галоўнай у сваім жыцці і прысвяціў таму светлай памяці маці, Кацярыны Мікалаеўны. Назва кнігі — «Любоў прасветлая». Што яна сабой уяўляе, сказаў сам аўтар у невялікай прадмове, якую тут змяшчаем.***

## Некалькі слоў пра кнігу

Як пазначана на тытульным лісце, гэта кніга пра беларускую мову. Не манаграфія, не падручнік, не нарыс, а лірыка-публіцыстычная хроніка. Кніга ў найвышэйшай ступені асабістая. Аб мове я гавару ў ёй вершамі і публіцыстычнай прозай. Гэта свайго роду «выбранае» з таго, што напісана мною на адну неабсяжна вялікую, а для мяне, як цяпер ужо бачна, галоўную тэму майго жыцця, маёй літаратурнай працы. На тэму: родная мова. У межах гэтай агульнай «тэмы» чытач лёгка выдзеліць некалькі самастойных змястоўных аспектаў, у прыватнасці: мова і асоба чалавека, мова і нацыянальная самасвядомасць, мова і гістарычны лёс народа, мова і дзяржава, мова як першаэлемент нацыянальнай культуры, мова і адукацыя, мова і навука, мова і фальклор, мова і літаратура, моўнае майстэрства пісьменніка, мова і мастацкі пераклад, мова і тэатр, культура мовы, праблема двухмоўя, пытанні правапісу і многае іншае. Над усім гэтым і ва ўсім гэтым — любоў да роднага слова, гонар за яго высокія прыродныя вартасці, радасць ад карыстання ім, боль за яго прыніжэнне варварамі-вандаламі, горыч за здраду яму саміх жа беларусаў, і — непахісная вера, што яму, вялікаму і магутнаму роднаму слову, жыць вечна.

Кніга, як сведчаць даты, пісалася мною на працягу ўсяго жыцця. Па вядомых прычынах найбольшы плён гэтае працы прыпадае на апошнія дзесяць гадоў, калі стала зразумела, што гісторыя дае нам, беларусам, яшчэ адзін — несумненна, апошні — шанц, каб мы канчаткова і назаўсёды сцвердзілі сябе як самастойны свабодны славянскі народ у суверэннай, незалежнай дэмакратычнай беларускай дзяржаве. Толькі ў святле гэтай высакароднай ідэі, гэтай багаслаўёнай мэты бачу апраўданым усё, што я зрабіў і раблю як літаратар і навуковец, як грамадзянін і сын Беларусі.

Ніл Гілевіч.

## Канферэнцыя «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты»

Старшыні і ўсім дэпутатам
Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
Ураду Рэспублікі Беларусь

### ПАВАЖАНЫЯ СПАДАРЫ!

Мы, удзельнікі канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты», праведзенай па ініцыятыве Таварыства беларускай мовы і амаль 50 грамадскіх арганізацый і палітычных партый, глыбока занепакоеныя дыскрымінацыяй беларускай мовы і яе носьбітаў у нашай краіне антынацыянальнай палітыкай дзяржаўных органаў у дачыненні да беларускай адукацыі і культуры, абразлівымі выказваннямі Прэзідэнта Лукашэнкі пра беларускую мову.

Мы спадзяёмся, што вы ўважліва прачытаеце прынятыя канферэнцыяй рэзалюцыі і не застанецеся абыякавымі да ўзнятых у іх праблемаў. Ад вас у значнай ступені залежыць далейшы лёс беларускай мовы і культуры і вы здольныя спыніць працэс дэнацыяналізацыі і грубай зняваги правоў карэннага насельніцтва нашай краіны. Валодаючы, паводле Канстытуцыі, усёй паўнатою ўлады, вы можаце ўмацаваць духоўны падмурак нашай незалежнасці і будучага эканамічнага росквіту.

## АБ СТАНЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

### Рэзалюцыя канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі»

На працягу стагоддзяў беларуская мова застаецца неацэнным духоўным скарбам нашага народа. Гэта мова летапісаў, дзяржаўных і дыпламатычных актаў, справаводства, богаслужбы і прыгожага пісьменства. Яе занапад пачаўся з канца XVII ст. і працягваўся да XX ст. у выніку працэсаў паланізацыі і русіфікацыі, калі беларуская мова стала выключна сродкам побытавай камунікацыі і фальклору. Аднак з пачаткам беларускага Адраджэння намаганнямі вялікіх сыноў беларускага народа — В.Дуніна-Марцінкевіча, Ф.Багушэвіча, Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, М.Гарэцкага, Я.Лёсіка, Б.Тарашкевіча ды іншых была створана новая літаратурная беларуская мова. Яна перажыла кароткі, але плённы перыяд росквіту ў 20-х гадах гэтага стагоддзя, спынены масавым тэрорам бальшавіцкай улады супраць дзеячаў беларускага нацыянальна-дэмакратычнага Адраджэння. Была праведзена русіфікатарская рэформа правапісу і граматыкі беларускай мовы. Наша мова была выціснута спачатку са сцэнаў ВНУ, а потым і большасці пачатковых і сярэдніх школаў, перастала ўжывацца ў справаводстве і грамадскім жыцці. Планамерная кампанія задушэння мовы суправаджалася дыскрэдытацыяй і скажэннем беларускай гісторыі і культуры.

Гэты працэс ужо ў 70-х гадах набыў памеры духоўнага генацыду. Сфера ўжытку беларускай літаратурнай мовы звузілася практычна да «рэзервацыі» Саюза пісьменнікаў ды яшчэ Беларускага радыё і тэлебачання, дзе ўрэшце таксама панавала руская мова. Многія беларусы, пазбаўленыя магчымасці атрымаць адукацыю на роднай мове і карыстацца ёю ў сваёй дзейнасці, перайшлі на неўнармаваную гаворку, своеасаблівы «pidgin-russian», сімвалам якога стаў крылаты выраз «хто как хаціт, тот так і гаварыт».

З уздымам новай хвалі беларускага Адраджэння ненармальны стан беларускай мовы ў Беларусі быў асэнсаваны грамадствам. Вярхоўны Савет XI склікання прыняў «Закон аб мовах», які надаў беларускай мове статус адзінай дзяржаўнай і пашырыў яе магчымасці як мовы адукацыі. Распачаўся павольны працэс пашырэння сферы ўжытку беларускай мовы. Аднак ён быў спынены пасля антыбеларускага рэферэндуму 1995 г., праведзенага па палітычных матывах з парушэннем канстытуцыйных нормаў і «Закона аб рэферэндуме», паспешліва і без шырокага абмерка-вання яго наступстваў у сродках масавай інфармацыі.

Нягледзячы на тое, што гаварыць сёння пра «роўны статус беларускай і рускай моваў» не выпадае, вынікі рэферэндуму справакавалі новы ўздым русіфікатарскай палітыкі. Рэзка скарацілася колькасць беларускамоўных дзіцячых садкоў і класаў у сярэдніх школах. Спыніўся працэс пераводу вышэйшай адукацыі на беларускую мову. Зменшыліся тыражы беларускіх кніг. Спыняецца выпуск нацыянальных энцыклапедыяў. Толькі лічаныя дэпутаты ВС і прадстаўнікі ўлады карыстаюцца роднаю моваю. Над беларусамі навісла рэальная пагроза поўнай дэнацыяналізацыі.

У гэтых абставінах удзельнікі канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі»:

1. Выступаюць супраць рэвізіі канстытуцыйных палажэнняў і заканадаўства аб мовах.
2. Патрабуюць ад усіх службовых асоб строга выконваць дзейнае заканадаўства аб мовах.
3. Заклікаюць дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь стварыць заканадаўчыя механізмы для рэалізацыі «Закона аб мовах» і падтрымкі беларускай культуры, адукацыі і сродкаў масавай інфармацыі.
4. Заклікаюць усіх свядомых грамадзян Рэспублікі Беларусь прыкласці ўсе магчымыя намаганні для захавання, узбагачэння і пашырэння роднай мовы — стрыжня і апірышча беларускай культуры і самасвядомасці нашага народа.
5. Рэгулярна штогод праводзіць канферэнцыі, прысвечаныя стану беларускай мовы.

## АБ СТАНЕ БЕЛАРУСКАМОЎНАЙ АДУКАЦЫІ

### Рэзалюцыя канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі»

«Кожны чалавек мае права на адукацыю», — сцвярджае артыкул 26 «Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека». Аднак мільёны беларусаў, што жывуць у незалежнай Рэспубліцы Беларусь на сваёй зямлі, рэальна пазбаўлены гэтага права. Яшчэ нядаўна ў сталіцы краіны не было ніводнага беларускага класа, дый сёння тут няма ніводнай сярэдняй школы і ВНУ, дзе ўсё выкладанне вялося б па-беларуску.

Прыняццё ў 1990 г. «Закона аб мовах» стварыла пэўныя ўмовы для адраджэння беларускай сістэмы адукацыі. Яшчэ большыя магчымасці адкрыў для гэтага прыняты ў 1991 г. Закон аб адукацыі. Працэс дэмакратызацыі грамадскага жыцця дазваляў адначасна з пераводам выкладання на беларускую мову ажыццявіць перагляд падручнікаў і дапаможных матэрыялаў па гуманітарных прадметах з мэтаю пазбаўлення ад расійскіх гістарычных мітаў, якія скажалі гістарычную праўду і зневажалі годнасць беларусаў, а таксама наблізіць гуманітарную адукацыю да еўрапейскіх стандартаў. Пачалі выходзіць новыя падручнікі гісторыі і літаратуры значна вышэйшай якасці, чым ранейшыя. Павялічылася колькасць беларускіх класаў і школаў.

Аднак пасля антыбеларускага рэферэндуму 1995 г. гэты нармальны працэс быў спынены. Людзі, якія грэбліва ставяцца да ўсяго беларускага, хаваючы свае прозвішчы, але, абапіраючыся на падтрымку Прэзідэнта Лукашэнкі, распачалі рэвізію новых падручнікаў, разгледжаных і зацверджаных аўтарытэтнымі навуковымі радамі. Шавіністычнае чынавенства з Міністэрства адукацыі шэрагам яўных і прыхаваных захадаў рэзка скараціла колькасць беларускіх школаў і класаў, пераводзячы дзяцей, якія ўжо 3—4 гады вучыліся па-беларуску, на рускую мову. Спыніўся працэс падрыхтоўкі новых падручнікаў і іх друкаванне. Вяртаюцца падручнікі савецкіх часоў. І без таго слабыя спробы перавесці выкладанне ў вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школе на беларускую мову спыненыя.

Мы патрабуем:

1. У найбліжэйшай перспектыве стварыць непарыўную сістэму беларускамоўнай адукацыі — ад дзіцячага садка да ВНУ.
2. Забяспечыць выданне падручнікаў на беларускай мове па ўсіх дысцыплінах і для ўсіх тыпаў навучальных установаў.
3. Строга захоўваць нададзены статус беларускамоўных школ.

Мы патрабуем, каб вяртанне каланіяльнай сістэмы адукацыі было тэрмінова спынена. Мы патрабуем, каб чынавенства, якое ўтрымліваецца на сродкі беларускіх падаткаплатнікаў, дзейнічала ў межах закона на карысць беларускага народа.

Мы поўныя рашучасці дамагчыся таго, каб беларуская сістэма адукацыі была створана і ганебны для еўрапейскай краіны стан грубага парушэння правоў чалавека спынены.

## ЗВАРОТ ДА ВЕРНІКАЎ ХРЫСЦІЯНСКІХ КАНФЕСІЯЎ У БЕЛАРУСІ

Духоўнае адраджэнне нашага народа пасля дзесяцігоддзяў панавання атэістычнага камуністычнага рэжыму немагчымае без адраджэння ўплыву і культурнай ролі традыцыйных для Беларусі хрысціянскіх канфесіяў.

Аднак ні праваслаўная царква, ні каталіцкі касцёл, ні пратэстанцкія канфесіі ў богаслужбе не карыстаюцца шырока моваю, Богам дадзенай беларусам. Па штучных, надуманых прычынах адсутнасці перакладчыкаў ці патрабавання вернікаў замаруджваецца працэс перакладу Святога пісьма і літургічных тэкстаў на беларускую мову. Іерархі хрысціянскіх канфесіяў забыліся на прыклад святых Кірылы і Мяфодзія, якія хутчэй зрабілі пераклад Біблii на мову непісьменнага народа, чым гэта робіцца сёння, пасля 1000 год існавання хрысціянства ў Беларусі. Яны забыліся, што не пастыр ходзіць за статкам, а статак за пастырам і што без увядзення беларускай мовы немагчыма данесці Слова Божае да большасці карэннага насельніцтва гэтай зямлі, кінутага сёння без духоўнай падтрымкі і навучання.

Мы заклікаем клер і вернікаў усіх хрысціянскіх канфесіяў спрыяць як мага хутчэйшаму ўвядзенню беларускай мовы ў богаслужбу і духоўнаму адраджэнню нашага народа.

*Сведчанні*

# За беларускую мову — дубінай па галаве

Не так даўно на старонках «Нашага слова» адна беларуская маці даволі нечакана, але трапна звярнула ўвагу на мэтазгоднасць падаткаў: маўляў, ці варта іх плаціць беларусу, калі ягоныя нацыянальна-культурныя грамадскія патрэбы амаль не ўлічваюцца. Але мне асабіста лёс падкінуў іншую аналогію з бюджэтнай сферы. Як і любое грамадства, мы, беларусы, частку сваёй зарплаты аддаём яшчэ і на тое, каб утрымліваць пэўную збройную сілу, дзеля захавання парадку, каб мы маглі нармальна працаваць, набываць пэўную ўласнасць і ведаць, што нас не абрабуюць і не зробяць шкоды нашаму здароўю. Чым жа тут вяртаюцца беларусу ягоныя выплаты?

Не буду займацца аналізам узроўню злачыннасці ды раскрывальнасці парушэнняў закона. Перада мною асабіста паўстала іншае пытанне: каму я, законапаслухмяны грамадзянін, даверыў сваю ахову? Дакладней, «даверылі» без мяне.

Ужо многія ведаюць з газет, з перадач шматлікіх тэлеканалаў пра падзеі, што адбыліся ў Менску пад час традыцыйнага ўжо Свята Волі, як свядомыя беларусы называюць гадавіну абвяшчэння нашай першай нацыянальнай дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі, БНР. Па ўсім свеце разнеслі весткі аб тым, што здарылася, такія гіганты інфармацыі, як Франс-прэс, Ройтэр і г.д. І ўсё ж нават самыя аб'ектыўныя паведамленні тых сусветных агенцтваў грашылі скупасцю і недагаворанасцю.

Для мяне гэта Свята — адзінае з тых, дзе можа напоўніцу ўздыхнуць беларуская душа. Бо нават Дзяды, якія пасля памятнага 1988 года сталі афіцыйным святам, усё ж патыхаюць сумам. А Дзень Волі — светлы, нягледзячы на трагізм даўніх падзей, бо ўсё роўна, дзень надзеі і памкненняў да лепшага жыцця. І таму сёлета, 24 сакавіка я прыйшоў на Свята з усёй сям'ёй.

Мо не кожны зразумее, колькі радасці адчуваў бацька, калі яго чатырохгадовая дачка з разуменнем выгуквала з людзьмі: «Жыве Беларусь!» А з якім задавальненнем яна трымала свой маленькі бел-чырвона-белы сцяжок — той самы, пад якім яна нарадзілася ў 1992 годзе і песня пра які стала першай на ейных вуснах:

Бел-чырвона-белы сцяг
І штандар з Пагоняй —
Нашай вольнасці працяг,
Вечнасці сымболі.

І мая Альдонка, мая маленькая беларусачка, сама тут адчувала, што ўсё гэта жыве. І поўнілася радасцю ейная душа. І мая таксама. Бо быў Дзень Волі.

У пэўны час я праводзіў жонку з Альдонкай на метро — у дзіцяці свой распарадак. Толькі хто б мог падумаць, што ў гэтым было і нейкае боскае наканаванне, калі Дзень Волі-96, як і Дзяды-88, пачалі ператварацца ў Крывавую нядзелю.

Восем гадоў таму ў мяне не было Альдоны, якая стала сімвалам майго новага жыцця. Долі хапануў я тады ад камуністычных ахоўнікаў закона толькі порцыю атрутнай «чаромхі». Сёлета за права быць беларусам у Беларусі заплаціў куды даражэй.

Чытачы, пэўна, ведаюць, чым закончылася святочнае шэсце па праспекце Скарыны? Законнае яно было ці наадварот — законным была нечаканая адмена ўладамі свайго дазволу на яго? Гэта асобнае пытанне, якое не павінна захіляць сабой факт надужыцця сілы. Народ узбройвае спецслужбы не для таго, каб яны бабахалі па нас з гарматаў за няправільны пераход вуліцы.

Зрэшты, прабачце за «лірычныя» перабольшанні, далей будуць толькі сведчанні. Ля будынка КДБ, што ля крамы «Падлісныя выданні», тых, хто вярнуўся з мітынгу, пачалі атачаць узброеныя дубінкамі і схаваныя за шчытамі і шаломамі шыхты «спецназа». Спынялі ўсіх запар, хоць хтосьці ўвогуле не быў на мітынгу, а хацеў праскочыць у краму па малако, нехта проста ішоў звычайнай дарогай на паштамт — не ўдалося нікому. У ход пайшлі гумавыя дубіны. Па плячах, па галовах! Мала гэтага паказалася. Раз-пораз з-за шчытоў высоўвалася «баявая» рука з балончыкам і пырскала, труціла беларусаў, як прусакоў.

Я ўбачыў, як у хмарцы блакітнага газу паваліліся адна за адной дзве жанчыны. Адна зусім старэнькая. А вядома ж, што пры астме той «міліцэйскі» газ папросту смяротны. І тут я, па меркаванні ахоўнікаў, дапусціў «парушэнне». Нават два. Я падбег, каб дапамагчы жанчынам падняцца, бо тых ужо ахоўнікі таптали нагамі. Пры гэтым я крыкнуў. Па-беларуску: «Вы ж забіваеце жанчын! Апамятайцеся!» І адразу на мяне абрынуліся дзяцюкі з дубінамі. Білі, білі бесперапынна. Лупілі па галаве, зрэдку — па плячах. Потым схапілі, вывернулі рукі і, скаваўшы кайданкамі, прыўзняўшы, як на прэнгу, мяне пацягнулі ў машыну. У «варанок». З размаху, звязанага, кінулі на падлогу і працягвалі лупцаваць дубінкамі.



У ахоўнікаў парадку (не ў нашай краіне) ёсць мяжа ўжыцця сілы нават пры затрыманні злачынцаў. У садыстаў яе няма. Я страціў прытомнасць — білі непрытомнага. Ад уключанай сірэны ачнуўся і паварушыўся — зноў адчуў удары. Так усю дарогу да Цэнтральнага РАУС. І ніводнаму не прыйшло ў галаву сказаць: «хопіць». Мяне толькі супакойвала думка, што жыццё ў гэтай краіне для беларуса даўно скончана, ды паўпрытомнае адчуванне, нібыта б'юць па чужой галаве недзе нада мной.

Ля будынка Цэнтральнага РАУС мяне неяк раскатурхалі, але пры спробе зірнуць на нумар машыны прытомнасць зноў «адключылі» ўдарам у яшчэ некранутую правую скронь (у машыне я ляжаў на правым баку).

Што было далей — прыгадаць цяжка. Я спрабаваў нешта гаварыць. Вядома ж — па-беларуску, а ў адказ даносілася: «Бэнээф, сволочь. Сколько тебе заплатили?» І адборны расійскі мат.

Гэта з тых жа расійскіх імперскіх легендаў, што нібыта ўсе, у тым ліку чачэнцы, абараняюць сваю радзіму толькі за чужыя грошы. Дарэчы, я нават не належу да БНФ, як журналіст не пішу на палітычныя тэмы, а ў асноўным — пра кіно і эстрадную музыку. Але як грамадзянін — я за дзяржаўнасць Беларусі і за роўныя правы для ўсіх. І калі нехта тэрарызуе і калечыць чалавека з-за партыйнай прыналежнасці, гэта не ахоўнік грамадзянскага парадку, а баявік, штурмавік нейкай партыі. У дадзеным выпадку, той, якая варагуе з БНФ і ўвогуле з патрыятычна настроенымі беларусамі. Але гэты партыйны штурмавік атрымлівае зарплату чамусьці ад дзяржавы, значыць, і з маіх падаткаў, каб мяне ж запалохваць і калечыць, калі я проста гавару па-беларуску.

...Прытомнасць вярнулася ад нечаканага лагоднага дотыку. Аказваецца, мяне аглядаў доктар. Потым на машыне «Хуткай дапамогі» ў Чыжоўку. І машына ж не чорная, а бел-чырвона-белая... 10-я бальніца...

— Божа мой! Пэўна яшчэ аднаго з мітынгу прывезлі. І колькі ж яны там мясіць будуць! — разнеслася ў прыёмным пакоі.

...Чырвонымі крыжыкамі на белым і завяршыўся для мяне Дзень Волі-96. І гэта дае палёгку. Толькі вось з «крыжыкамі» крывазалеваў у збітай галаве яшчэ давядзецца пазмагацца. Як і майму суседу па палаце за свае паламаныя рэбры.

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**

# ТБШ утворана

22 сакавіка ў менскім Доме настаўніка адбылася Генеральная Асамблея — устаноўчы сход Таварыства беларускай школы. Настаўнікаў, бацькоў школьнікаў і іншых яго ўдзельнікаў павітаў старшыня аргкамітэта ТБШ Алесь Лозка. Ён хутка перайшоў да сутнасці справы:

— Адзін варыянт Статута, прапанаваны вам, не прадугледжвае ўдзелу ў кіраўніцтве Таварыства высокіх урадавых чыноўнікаў. Другі, у слушнасці якога я перакананы (не ведаю, ці зразумееце вы мяне), прадугледжвае супрацоўніцтва з кіраўніцтвам дзяржаўнай сістэмы адукацыі.

Далей старшынём аргкамітэта была прапанавана канцэпцыя ТБШ як дыскусійнага клуба з удзелам супрацоўнікаў Міністэрства асветы ды зацікаўленых асобаў з грамадскасці.

Пасля ўступнай прамовы сп. Лозка абвясціў: дэлегатаў суполак ТБШ сярод прысутных няшмат — чалавек 20—30 і таму ці не варта даць права голасу не выключна ім, але таксама і астатнім? Агульным галасаваннем было вырашана, што права голасу маюць усе прысутныя.

Наступным слова ўзяў старшыня мандатнай камісіі, які паведаміў: у зале прысутнічаюць дэлегаты з ўсіх рэгіёнаў краю, акрамя Магілёўскай і Віцебскай абласцей. Рэгістрацыю прайшлі 82 чалавекі, з іх 16 — прыватныя асобы, 66 — прадстаўнікі ўжо створаных суполак ТБШ: 8 — з Менскай вобласці (агульная колькасць 70 асобаў), 2 — з Гродзеншчыны (агульная колькасць 220 асобаў), 3 — з Берасцейшчыны (120 асобаў) ды 1 суполка (15 асобаў) з Гомельшчыны.

Услед за ім на трыбуну выйшаў Лявон Луцкевіч, які павітаў Асамблею ад імя Таварыства беларускай школы Летувы.

За гэты час дэлегаты паспелі, урэшце, прачытаць абодва варыянты Статута ТБШ, якія былі раздадзеныя перад самым пачаткам сходу. Праекты розніліся як памерамі, так і зместам. Першы, падрыхтаваны арганізацыйным камітэтам ТБШ, быў аздоблены ксеракопіяй артыкула сп.Лозкі, названага «Народу-самазабойцу дапаможа беларусатэрапія», ды схемай распрацаванай ім жа будучай структуры ТБШ. Згодна з ёю Таварыства мелася стаць толькі часткай нейкай грамадска-педагагічнай акадэміі з прэзідэнтам і віцэ-прэзідэнтам, Генеральнай Асамблеяй і Вальным Соймам, канцлерам і падканцлерамі, акадэмікамі і член-карэспандэнтамі. Другі праект, памерам утрая меншы, значна менш увагі надаваў справе разбудовы іерархічнай структуры Таварыства ды нават не згадваў, у адрозненне ад першага, пра неабходнасць падтрымкі іншамоўнага школьніцтва. Таму галоўнай прычынай спрэчак сталі менавіта пункты маючага быць прынятым Статута.

— ...Таварыства беларускай школы бачыцца мне перадусім як праваабарончая арганізацыя, скіраваная на адстойванне правоў і інтарэсаў дзяцей, якія вучацца ў беларускамоўных школах. А сярод іншых мэтаў гэтай арганізацыі мне бачыцца распрацоўка канцэпцыі нацыянальнай школы, адстойванне беларускамоўнай вышэйшай школы, беларускамоўнага дашкольнага выхавання.

Паміж двума варыянтамі Статута ёсць розніца не толькі арганізацыйная, але і канцэптуальная. У пункце 2.2. «вялікага» Статута сказана: «ТБШ праводзіць паслядоўную працу з бацькамі, дзецьмі, настаўнікамі, дырэктарамі школ, супрацоўнікамі аддзелаў адукацыі і культуры, накіраваную на росквіт нацыянальнай школы, захаванне існуючых і адкрыццё новых класаў і школ з беларускай мовай навучання, іншамоўных, двух- і шматмоўных школ на аснове нацыянальных праграм і падручнікаў». Але ж паслядоўную працу з бацькамі, дзецьмі і настаўнікамі, скіраваную на адкрыццё іншамоўных, а таксама двух- і шматмоўных школ на месцы былых беларускіх, ужо праводзяць нашыя цяперашнія ўлады. Навошта ў такім разе ТБШ? Дапамагаць у гэтай справе?

Мы павінны зважаць, што цяпер 1996, а не 1992 год і афіцыйная дзяржаўная палітыка вызначана. І мы павінны ўсведамляць: кожны чалавек, незалежна ад сваіх асабістых якасцей, які сёння працуе ў «вертыкальных» структурах, вымушаны зважаць на дзяржаўную палітыку. І нашыя размовы ў прапанаваным аргкамітэтам клубе будуць выглядаць так: «Я добры хлопец, я таксама беларус, але зразумейце мяне...» І мы зразумеем, бо мы таксама добрыя хлопцы.

Я баюся, каб не адбылося такім чынам падмены арганізацыі рэальна дзейснай на арганізацыю дэмпферную, змякчальнага кшталту, якая будзе гасіць памкненні людзей.

І яшчэ адна думка. Бясспрэчна, абапірацца зноў на тых жа асобаў, якія стваралі ТБМ ці сталічны бацькоўскі камітэт, не было б сэнсу. Новая арганізацыя павінна вызначыць новых людзей з ліку бацькоўскага актыву, а таксама тых, якія, належачы да кіраўніцтва адукацыйнай сістэмы, не залежаць ад прэзідэнцкай улады.

Гаворачы пра структуру, якая будзе выконваць рэпрэзентацыйныя, дарадчыя функцыі, будзе інтэлектуальным асяродкам і месцам стварэння альтэрнатыўных методык і навучальных тэкстаў, не трэба забывацца, дзеля чаго яна існуе. А ў прапанаванай «вялікім» праектам схеме ўласна ТБШ я бачу на ніжнім паверсе агульнай структуры. Я з павагаю стаўлюся да працы аргкамітэта, але ў такім выпадку патрэбныя дзве арганізацыі, блізкія, але непадобныя: адна — інтэлектуальны цэнтр, другая — занятая праблемамі школы, — сказаў у сваёй прамове філолаг В.Вячорка.

Прафесар Аляксей Саламонаў, выкладчык БДТУ, заявіў наступнае:

— У праекце Статута не пазначана, як ТБШ будзе звязана з Таварыствам беларускай мовы, каб не адбылося супрацьстаяння з ім ці іншымі арганізацыямі, напрыклад, Радай прафесараў...

Я згодны з прапанаваным праектам распрацоўкай праграмы «Еўрапейская школа XXI стагоддзя», калі гэта азначае, што яна мусіць мець нацыянальнае беларускае аблічча.

І апошняе: цяпер утворана столькі акадэмій, што званне акадэміка пачало губляць свой прэстыж. Аргкамітэт прапануе званні грамадскага прафесара ды іншыя. Але ж па ўсім свеце такія званні надаюцца адпаведнымі дзяржаўнымі ўстановамі, і нам, грамадскай арганізацыі, рабіць гэта было б не дарэчы.

Старшыня Лідскай аб'яднанай Рады ТБШ Аляксандр Сокал адзначыў, што асаблівую ўвагу стваральнікі ТБШ павінны надаць не органам кіравання, а першасным суполкам Таварыства. У структуры выканаўчай улады, дадаў ён, працуе мноства людзей, якія, не жадаючы быць сябрамі ТБШ, гатовы спрыяць яго дзейнасці, і з імі Таварыства павінна супрацоўнічаць.

Наступным прамоўцам быў прарэктар Беларускага камерцыйнага універсітэта кіравання Генадзь Пятроўскі:

— Лічу, што нельга пакідаць па-за межамі ўвагі расійскамоўныя і двухмоўныя школы. Таму ў Статуце трэба пазначыць: ТБШ будзе спрыяць іх пераводу ў беларускую мову, а да таго — пашырэнню ў змесце іх праграм беларускага нацыянальна-культурнага кампанента.

— Магчыма, лепшым выйсцем для нас было б стварэнне нейкай асамблеі нацыянальнай адукацыі пры, а не над ТБШ. Бо работа на месцах — самае галоўнае сёння. Не будзе пра кага думаць тым ганаровым сябрам Акадэміі, калі не будзе гэтых структур, — сказаў намеснік дырэктара Беларускага гуманітарна-адукацыйнага ліцэя Л.Баршчэўскі.

Галоўнае — народ, а не народныя акадэміі — гэтую думку падтрымаў і наступны прамоўца — старшыня ТБМ Ніл Гілевіч.

Вынікам гэтых і іншых прамоваў стала амаль аднагалоснае зацвярджэнне «малога» праекта Статута ТБШ як больш канкрэтнага. Пасля таго адбыліся выбары кіраўніцтва ТБШ. Прэзідэнтам арганізацыі быў абраны Генадзь Пятроўскі, віцэ-прэзідэнтамі — Алесь Лозка і Аляксандр Сядзяка.

«У 1991—1992 гадах я быў кіраўніком навуковага калектыву, які займаўся распрацоўкай новай нацыянальнай канцэпцыі сярэдняй адукацыі, у якой беларуская мова мела прыярытэт. Я і сёння гатовы падпісацца пад кожным радком гэтага дакумента», — сказаў сп.Пятроўскі ў сваёй першай прамове на новай пасадзе, чым пацвердзіў: створана яшчэ адна грамадская арганізацыя, гатовая адстойваць законныя правы народа Беларусі.

**У.П.**

*Актуальна!*

# Генератар нацыянальнай самасвядомасці ў Капылі

Днямі ў Капыльскім краязнаўчым музеі закрылася незвычайная выстава — абразоў, якая мела найменне — «Выратаваныя каштоўнасці» і доўжылася амаль палову года. Вось якая гутарка адбылася з гэтай нагоды з дырэктарсай музея Валянцінай Шураковай.

**А.М.:** Валянціна Леанідаўна, напачатку некалькі словаў пра тое, як у ваш музей трапілі гэтыя абразы.

**В.Ш.:** Усе гэтыя некалькі дзесяткаў іконаў ды іканастасаў — работы майстроў XVIII, XIX і пачатку XX стагоддзя былі «арыштаваныя» на мытнях Гародні, Смаргоні ды Берасцейшчыны. Шэдэўральныя творы — у асноўным Віцебскай і Пецярбургскай іканапісных школаў... Рабаўнікі хацелі іх вывезці за межы Беларусі, але нарваліся на пільную і непадкупную мытную службу. Пасля таго, як экспанаты былі прагледжаныя спецыялістамі, іх размяркоўвалі па музеях краіны. Нам паспачувала загадчыца аддзела старажытна-беларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея, доктар мастацтвазнаўства Надзея Фёдараўна Высоцкая — адна з нямногіх вучоных, каго запрашалі чытаць лекцыі ў Луўр. Яна і паспрыяла перадачы нашаму музею некалькіх дзесяткаў абразоў.

**А.М.:** Але чаму менавіта ў Капыль?

**В.Ш.:** Ну, тут многае сышлося. Па-першае, у нас выдатныя ўмовы — прасторнае памяшканне, добрае ацяпленне, вентыляцыя. А па-другое, тут радзіма заслужанага дзеяча культуры Генадзя Міхайлавіча Галубовіча (цяпер нябожчыка) — выдатнага мастака і публіцыста, які спрыяў прапагандзе старажытнага царкоўнага мастацтва. Тут, у вёсцы Вялешына, у хаце Генадзя Міхайлавіча, існуе дзякуючы клопатам Надзеі Высоцкай сапраўдны музей-кватэра. Сюды Надзея Фёдараўна, удава мастака, часта наязджае, каб наведаць магілу мужа. І, канешне, заўсёды завітвае ў наш музей, сябруе з намі, дае парады. Ну, а капыляне — у большасці сваёй людзі культурныя, нацыянальнасвядомыя. Размаўляюць, дарэчы, у асноўным па-беларуску, многія захапляюцца вырабам твораў прыкладнога мастацтва, народнымі рамёствамі. Тут нездарма вырасла больш 30 беларускіх пісьменнікаў. Ёсць «свае» кампазітары, мастакі...

**А.М.:** Не магу сурова асуджаць збяднелых людзей, якія прадалі каму папала святыя абразы, перад якімі маліліся іх продкі. Грэх павінны ўзяць за ўсе вынікі бездухоўнасці адэпты таталітарнай атэістычнай і камуністычнай ідэалогіі, што больш чым 70 гадоў забівалі галовы людскія падкаланіяльнай свядомасцю ды богазмагарствам. Грэх таксама — на цяперашніх уладарах, якія ў эканамічным сэнсе давялі народ да галечы. Але ж павінна быць у кожнага пачуццё тае мяжы, за якой пачынаецца грэхападзенне. Урэшце і начальству, і бізнесменам трэба зразумець: без нацыянальнай свядомасці, без пачуцця Радзімы беларускае прадпрымальніцтва ніколі не стане цвёрда на ногі, як вы лічыце?

**В.Ш.:** Я не хачу глыбока даследаваць палітычныя прычыны гэтай з'явы — вывазу твораў іканапіснага мастацтва за мяжу краіны. Я — не палітык. Але сапраўды: у кожнага чалавека павінна быць пачуццё святасці і пачуццё мяжы маральна дазволенага. Нядаўна я з'ездзіла па музейных справах у Варшаву. Было проста сорамна бачыць, як нашы суграмадзяне там гандлююць і ордэнамі з медалямі, і тымі ж абразамі, і творамі народнага мастацтва, якім бы толькі быць у музеі. Усё — на продаж! Палякі ж, з якіх у нас часам кпяць як з увішных гандляроў і якія, сапраўды, умеюць весці бізнес акуратна, талкова, з выгадай, тым не менш да сваёй мастацкай і духоўнай спадчыны, да ўласных нацыянальных святыняў аднsocяцца менавіта як да святога. Знаёмыя палякі з ліку калегаў мне прызналіся, што па тых беларусах, якія запоўнілі ўсе польскія вялікія і малыя кірмашы, у Польшчы мяркуюць пра ўсіх нас, пра ўсю нацыю. «Калі вы не паважаеце саміх сябе, дык хто будзе ў свеце вас паважаць?» — казалі мне.

**А.М.:** Вядома, што ганебны рэферэндум, абагаўленне ідэі славянскай еднасці з Расіяй (чамусьці толькі з ёй, нібыта астатнія народы, родныя нам па крыві, — украінцы, палякі, чэхі, славакі, славенцы і г.д. — ужо не славяне), ідэі ў старадаўняцарскім яе разуменні ўплываюць на паглыбленне дэнацыяналізацыі беларусаў. Ды й Вярхоўны Савет, які разглядаў праект бюджэту на 1996 год, адпусціў на культуру, адукацыю і іншыя пытанні «гуманітарнага плана» лічаныя працэнты, такім чынам прадэманстраваў сваю абыякавасць да праблем духоўнага адраджэння нацыі. Няўжо мы застанёмся без людзей, якія шчыруюць на ніве беларускай культуры, на ніве захавання нашай культурнай спадчыны...

**В.Ш.:** Ведаеце, мы, якія працуем у беларускай культуры, асабліва ў музеях, у сваёй справе — фанатыкі. Бясконцыя экспедыцыі, афармленне экспазіцый, карпатлівае абагульненне навуковых матэрыялаў — і за ўсё такія капейчыны, пра якія і гаварыць сорамна. Але грошы для нас — не самае галоўнае. Галоўнае — захаваць усё тое, што было створана народам. Не захаваем гэту спадчыну сёння — заўтра будзе позна. І я асабіста, і мае калегі ніколі не спадзяваліся, што дзяржава неяк паклапоціцца пра нас. Мы прывыклі, што да культуры ўлады (за рэдкім выключэннем) ставіліся паблажліва. Але мы сваю справу ў любым выпадку не кінем. Трэба ж, каб нехта канкрэтна рупіўся пра Адраджэнне Беларусі. А музейная прафесія, наша справа ў сваёй канкрэтыцы менавіта такая. І я вельмі задаволена, што ў сэрцах маіх землякоў па-ранейшаму жыве беларуская душа, тысячы капылянаў наведалі экспазіцыю «Выратаваныя каштоўнасці». Я ведаю, многія з іх пасля прагляду гэтых іконаў сталі на дарогу, якая вядзе да Бога. Між іншым, у студзені мы перадалі са сваіх запаснікаў тутэйшаму СпасаВазнясенскаму храму два абразы — сапраўды шэдэўравыя працы «Багародзіца з дзіцем» і «Святы Мікола».

**А.М.:** Валянціна Леанідаўна, Вы згадалі пра навуковую працу, якую вядуць супрацоўнікі. Якога характару?

**В.Ш.:** Тут у нас найбольш шчыруе навуковы супрацоўнік, сапраўдны адраджэнец Фёдар Абрамчык. Па яго працах, звязаных з даследаваннем гісторыі Капыльшчыны, вучацца дзеці ў тутэйшых школах. А за даследаванне пра ўдзел грамадзян польскай нацыянальнасці ў партызанскім руху ў нашым рэгіёне ў часы Другой сусветнай вайны ён атрымаў урадавую ўзнагароду Польшчы. Зараз спадар Абрамчык вывучае тапаніміку населеных пунктаў Капыльшчыны...

**А.М.:** Якія новыя экспазіцыі мяркуюцца ў бліжэйшы час?

**В.Ш.:** Ужо да канца сакавіка пачнецца выстава твораў выдатнага беларускага мастака Уладзіміра Пасюкевіча, якому спаўняецца 65 гадоў. А з 1 красавіка будзе экспанавацца цудоўныя дываны народнай мастачкі Алены Кіш. Упэўненая, што ад капылянаў зноў жа адбою не будзе.

**Ад аўтара.** Лішні раз пераконваешся ў тым, якім магутным генератарам па развіцці нацыянальнай культуры і самасвядомасці можа быць мясцовы краязнаўчы музей.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

*У суседзяў*

## Танных «пірагоў» з Расіі не прадбачыцца

«Фарсіраваны саюз можа пашкодзіць ідэі сапраўднага аб'яднання, — лічыць адзін з лідэраў Расіі, які прэтэндуе на пасаду прэзідэнта, Г.Яўлінскі. — У Расіі ёсць не толькі газ, нафта, але і Чачня, квітнеючы крымінальны свет, дэфіцытны бюджэт. Ці дапаможа саюз вырашыць хаця б адну з гэтых праблем?»

Не выпадкова ў Крамлі пачалі даваць задні ход і карэкціраваць трыумфуючага Лукашэнку. Памочнік прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы Юрый Батурын, у прыватнасці, растлумачыў, што агульнага бюджэту не будзе (агульным плануецца толькі бюджэт для фінансавання дзейнасці Міждзяржаўнага інтэграцыйнага камітэта і Міжпарламенцкага Кангрэса), што будуць створаны не наднацыянальныя органы, а міждзяржаўныя (розніца істотная): увогуле размовы аб адзіным дзяржаўным утварэнні не вядзецца. Гэта ж пацвердзіў і расійскі прэзідэнт».

*«Комсомольская правда», 26 сакавіка 1996 г.*

*АЛЕ!*

## У адным шэрагу...

З 21 сакавіка ў Менскім касцёле св.Сымона і Алены адкрыта выстава партрэтаў «Дзеячы нацыянальнага адраджэння», прымеркаваная да 78-й гадавіны абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Выстава наладжана менскім грамадска-асветніцкім клубам «Спадчына». Яна складаецца з партрэтаў выбітных дзеячаў нацыянальнага адраджэння XX стагоддзя. Шырока прадстаўленыя работы такіх майстроў, як Анатоль Крывенка, Эдуард Агуновіч, Міхал Басалыга, Мікола Рыжы, Яўген Ціхановіч, Сямён Герус ды інш.

Цікава, што побач з партрэтамі сяброў першага ўрада БНР, вайсковых дзеячаў Антона Сокал-Кутылоўскага, Станіслава Булак-Балаховіча, класікаў беларускай літаратуры, змешчаныя партрэты і нашых сучаснікаў: Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Язэпа Юхо, а.Аляксандра Надсана. Праўда, тут жа, побач з выявай Ларысы Геніюш, вісіць партрэт... Святланы Белай, асобы па-свойму легендарнай, вядомай тым, што колькі гадоў таму з'ехала ў слаўны горад Кліўленд, штат Агаё, ЗША, і вось адтуль вельмі любіць Беларусь.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

Беларускае Адраджэнне

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# «Лексіс з талкаваннем славенскіх моў проста»

Меркаванні аб беларускіх арыентацыях Івана Фёдарава засноўваюцца на аналізе тэкстаў яго вучэбных кніг, у прыватнасці выданняў «Азбукі» і «Граматыкі», дзе, фактычна, насуперак правілам, царкоўнаславянскі тэкст перасыпаны беларускімі словамі.

І асобную старонку, так бы мовіць, беларускай дзейнасці Івана Фёдарава складае «Лексіс з талкаваннем славенскіх моў проста», з яго цалкам беларускім корпусам лексікі ў тлумачальнай частцы. Зверка слоўніка — прыточніка з тэкстамі тагачасных выданняў і, перш за ўсё, — астрожскай «Бібліі» (1581) І.Фёдарава дае важкія аргументы, якія дазваляюць замацаваць за дрyкаром аўтарства слоўніка.

Ужо ў другой трэці XVI стагоддзя з'яўляецца **«Лексіс з талкаваннем славенскіх моў проста», па сутнасці, адна з першых ва ўсходніх славян спроба прафесійнага тлумачальна-перакладнога слоўніка.**

Стваральніка гэтага параўнаўча невялікага, недзе на 908 няпоўных тлумачальных пар, слоўніка мы з поўнай падставай маглі б называць у ліку пачынальнікаў нашай лексікаграфіі. На жаль, слоўнік да гэтай пары знаходзіцца ў рэестры ананімных.

На доўгі час «Лексіс з талкаваннем славенскіх моў проста» знік з поля зроку даследчыкаў. Толькі ў 1884 годзе архімандрыт Амфілохій адшукаў рукапіс слоўніка, які быў укладзены ў астрожскую «Біблію» Івана Фёдарава, і апублікаваў (графікай XIX стагоддзя) у матэрыялах «Чтения в обществе истории и древностей российских при Московском университете». Паводле гэтай знаходкі аўтарства яго і лічылася за І.Фёдаравым. Але пазней сумнеўнае знаходжанне «Лексіса... проста» (у навуковых працах прынята скарочаная назва «Лексіса з талкаваннем славенскіх моў проста») са старадрукам «Бібліі» Фёдарава вучоныя палічылі недастатковай падставай у карысць аўтарства славутага друкара.

І самы першы аргумент — цалкам беларускі склад лексікі тлумачальнай часткі слоўніка. «Лексіс... проста», відаць, з-за ананімнасці ў нечым занядбаны нашымі гісторыкамі мовы, у прыватнасці, амаль не даследавана яго беларуская лексічная аснова.

Рэестравую частку «Лексіса... проста» складаюць царкоўнаславянскія словы (з пэўнымі пазычаннямі з грэцкай, лацінскай і іншых моў), тлумачальна-перакладную — старабеларуская лексіка.

Слоўнік — сапраўдная скарбніца старабеларускага слова: *певень, добрый дзень, нырки, ласка, миса, щасливость* (блаженство), *дъякование, вдячень, зрозумелъ, зопсованье, пожеданне, парканъ, позычаю, киваюся, крыница, досветчоное* (искусное), *оповедание, надутость, горнецъ медяный, жартливый, кожный, довстепъ* (досціп), *цегла, кожухъ, недбалость, непотребный, примушаю, буселъ, норовъ* (обычай), *пилнование, заглядаю, палацъ, шкодникъ, войско, торба, олата* (риза), *гомонъ, скарбница, збан, радца, справы, схавай, працую, утёкъ, вязни, выпущаю, сталый, моцный, ганба, пагорки, личба, сподеваюся, гуща* (гушчар), *владность* (дзяржава), *надаремне, размаитыхъ, зацность, запинаю, зныделы, жадным спосабам, уляканне, стадола* (жытніца).

Нам могуць запярэчыць: некаторыя з гэтых слоў лічацца пазычаннямі з польскай мовы. Але ці так гэта? Знаёмства з нашай старой лексікаграфічнай спадчынай дазваляе якраз у нечым перагледзець пытанне аб уплывах з заходнеславянскіх моў. Тое, што раней лічылася паланізмам, мы знаходзім у слоўніках Вялікага Княства Літоўскага, у «Лексіce...проста» і «Лексісе» Л.Зізанія, «Лексіконе» П.Бярынды і «Сіноніме славенароскай», а аналагічныя, часам больш блізкія формы — у сербскай і чэшскай мовах. З апошняй найбольш цесна сутыкаўся Ф.Скарына ў сваёй перакладчыцкай дзейнасці, маючы перад сабою за ўзор чэшскую «Біблію» (1506 г.) на народнай мове. Такім чынам, знаёмства з найбагацейшымі старажытнабеларускімі лексікаграфічнымі крыніцамі патрабуе ўдакладнення пытання аб уплывах, вымагае большай увагі да самастойнасці літаратурнай мовы Вялікага Княства Літоўскага, што, больш чым якая іншая, захавала пераемнасць ад агульнаславянскага моўнага кораня, засвоіўшы яго багацце з рэдкай паўнатою.

Таму, зыходзячы з беларускага складу «Лексіса... проста», можна дапусціць, што яго аўтарам быў Л.Зізаній. Такое меркаванне пра аўтарства «Лексіса... проста» выказалі В.В.Німчук і інш.

І ўсё ж у ранейшай, хоць і аўтаматычна прынятай версіі, якая звязвае аўтарства «Лексіса...проста» з імем І.Фёдарава, на нашу думку, больш аргументаў. Паводле некаторых прыкметаў, як, напрыклад, вытлумачэнне ўласных імён і геаграфічных назваў, «Лексіс... проста» складаўся як прыточнік да нейкага канкрэтнага тэксту старадрукаванага выдання. І да яго складання мог менавіта І.Фёдараў ці нехта іншы з вядомых выкладчыкаў Астрожскай акадэміі, але ніяк не Зізаній.

# БЕРАСЦЕЙЦЫ Ў МЕНСКУ

Пад такой назвай 28 сакавіка ў Доме літаратара адбылася вечарына. У госці прыехалі сябры берасцейскай філіі Саюза пісьменнікаў: Ніна Мацяш, Алесь Каско, Мікола Пракаповіч, Мікола Купрэеў, Зінаіда Дудзюк, Анатоль Дэбіш, Васіль Сахарчук, атаксама барды берасцейскай студыі аўтарскай песні «Вежа».

Вечарына мела юбілейны характар бо, як сказаў ва ўступным слове Алесь Каско, сёлета спаўняецца 15 гадоў берасцейскай філіі. За гэты час у яе былі набыткі, так і страты: прыйшла таленавітая творчая моладзь, але разам з тым не стала шматгадовага старшыні Уладзіміра Калесніка. Шмат цёплых слоў было сказана паэтцы Ніне Мацяш. Яе вітаў пісьменнік Анатоль Вярцінскі, узгадаўшы, як больш за 10 гадоў таму ён адкрываў і вёў у гэтым самым доме першую творчую вечарыну паэткі. Прывітаў берасцейскіх сяброў сваім вершам і паэт Анатоль Сыс, а Алег Атаманаў выканаў песні на словы Ніны Мацяш. Зала цёпла сустрэла і вітала кожнага з берасцейцаў.

**А.Н.**

Ствараем энцыклапедыю «Новай зямлі»

*Валянціна ВЫХОТА*

# Коласавы зернеткі

*(Шматзначнасць нашых і нямецкіх слоў )*

*«Памдзей» аб'ездчык быў*
*няшкодны:*
......
*За што й **вагі** ён не меў звання.*

**ВАГА,** 2. перан. Значэнне, сіла, уплыў (ТСБМ). Gewicht großes Gewicht haben иметь большой вес, пользоваться большим влиянием. (Немецко-русский фразеологический словарь. Л.И.Бинович и Н.Н. Гришин).

**Gewicht**, das узыходзіць да wiegen (абстрактнае) 'мець вагу; на вагах правяраць вагу', якое ўтварылася ў XVI ст. ад другой і трэцяй асобаў адз. ліку дзеяслова wägen 'узважваць' і ўзыходзіць да і.-е. дзеяслоўнага кораня *u̯eĝh- 'рухаць; цягнуць; вазіць'. Wägen цяпер ужываецца толькі ў прыказцы «Erst wägen, dann wagen» 'спачатку ўзважыць, потым важыць', што адпавядае беларускай прыказцы *Дзесяць раз мер і то не вер.*

**Wagen** 1 отваживаться; осмеливаться; 2 рисковать (РНС).

Той самы і.-е. корань у словах Waage, f вага. Генетычна роднаснае ст.-слав. vozŭ.

*За ім другія паўставалі*
*І ў цёмны лес **павандравалі***
......
*Сачыць глушцоў, шукаць іхтокі.*
*Паны чуць-чуць адно зірнулі,*
.....
*І ў свой будан **павандравалі**.*

У гэтых урыўках слова **павандраваць,** (вандраваць) мае значэнне ісці да канкрэтнай мэты.

Слоўнік сінонімаў (SW) падае таксама wandern auch gehen, але Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў М.К.Клышкі дае: вандраваць — Падарожнічаць; слоўнікі WDG і GDRW таксама не вылучаюць у слове wandern значэнне — 'ісці', а толькі 'падарожнічаць, блукаць'. ТСБМ не дае значэнне 'ісці' слова *вандраваць.*

*А скончыць тым апавяданне,*
*Што многа трэба **вандравання***
*І гэтай нуднай цяганіны,*
*Каб дацягнуць да палавіны...*
*Так, многа клопатаў з зямлёю!*

У гэтым урыўку слова *вандраванне* выступае ў значэнні *хада.*

***Вандруеш**, бы ў той Чартавіцы;*
*Ці дурань сам, ці ўсе дурніцы,*
*Ці проста кпяць з цябе, дурнога,*
*Бо ты не ведаеш нічога.*

У гэтым урыўку слова **вандраваць** мае значэнне 'блукаць'.

**Вандраваць.** Ням. wandern (zu wenden; winden), с.-в.-ням. wandern, ст.-в.-ням. wantōn. Роднасныя па значэнні wandeln, ст.-в.-ням. wantalōn 'хадзіць; блукаць' утворана ад ст.-в.ням. wantōn 'пераварочваць'. Часта ўтварэнні на -eln і -ern стаяць побач. Зыходнае значэнне 'змяніць, перарабіць' ужо ў с-в.-ням. стала звужацца і ўжываецца як перамена месца.

*А бацька з стрэльбай за плячыма*
*Ішоў дадому хвайнікамі,*
....
*Ды нюхаў дух той, поўны **вару**:*
*Такая суш — крый бог пажару!*

**ВАР,** 1. Вада ў стане кіпення. 2. перан. Разм. Спёка, гарачыня (ТСБМ). Вар — кипяток; зной (М.Байкоў і С.Некрашэвіч. Беларуска-расійскі слоўнік). У названых слоўніках слова **вар** выступае ў другім значэнні. У нямецкай мове слову **вар** з пададзенага ўрыўка адпавядае слова Hitze f.

У гісторыі слоў **вар і warm** былі значэнні 'гарэць', 'спякота', 'варыць' ды іншыя.

І.-е. корань праяўляецца ў хецкім слове са значэннем 'гарэць'.

Сінанімічны слоўнік (SW) словы warm і heiß дае як сінонімы: *warm* 1. <eine Temperatur zwischen heißu. lau aufweisend>; *auch heiß* (SW); heiß: 1. <sehr warm> glühend (SW). Др. Э. Агрыкола ў сваім слоўніку дае *heiß*: 1. <sehr *warm*> ein heißer Tag, Sommer, Wind; es ist heute sehr heiß (WW).

У нямецкай мове значэнне слова warm як 'гарачы' (паводле тэмпературы) захавалася ў выразах: warme Speisen (GDRW); warme Kost, warmes Essen (РНС).

М.К.Клышка ў сваім слоўніку сінонімаў дае: **ВАР, КІПЕНЬ, КІПЕЦЕНЬ;**

**КІПЕНЬ..** Вада ў час кіпення; (ТСБМ).

**КИПЯТОК** кіпецень, вар (РБС). кіпяток kochendes [siedendes] Wasser (РНС) і адпавядае слову *вар.*

Гісторыя слова: «Наша слова» № 7 (219), 15 лютага 1995 г.

Чытаем

# Пошукі страчанага

Кніга Марыі Задэнцкай «У пошуках страчанай айчыны. Вобраз Літвы і Беларусі ў творчасці некаторых польскіх пісьменнікаў-эмігрантаў» выдадзена ў аўтарытэтнай славістычнай серыі шведскага універсітэта ў Упсале. Яе тэма — грамадскае і палітычнае жыццё, духоўная і матэрыяльная культура народаў, якія ў першай палове XX ст. жылі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, а менавіта — на абшарах этнаграфічнай Беларусі і Летувы. Кніга, акрамя шматбаковага і грунтоўнага аналізу літаратурных і навуковых крыніц, выклікае цікавасць як маніфестацыя польскага пункту гледжання на гістарычныя лёсы гэтай тэрыторыі, значная частка якой доўгі час была «крэсамі» — паўночна-ўсходнімі ўскраінамі І і часткова ІІ Рэчы Паспалітай (для царскай Расіі, як вядома, гэта таксама быў *Северо-Западный Край*).

Гістарычныя рэканструкцыі М.Задэнцкай грунтуюцца на матэрыяле мастацкай літаратуры. Галоўныя постаці ў кнізе М.Задэнцкай — польскія пісьменнікі-эмігранты: Фларыян Чарнышэвіч, Міхал Паўлікоўскі, Мар'я Чапская, Чэслаў Мілаш, Юзэф Мацкевіч, якія нарадзіліся і правялі частку свайго жыцця ў Беларусі або Летуве, што стала адным з вядучых матываў іх мастацкай альбо публіцыстычнай творчасці.

Для ўсёй працы М.Задэнцкай уласцівы паслядоўны дакументальны падыход да літаратуры і літаратурнага тэксту — як да складанай інфармацыйнай сістэмы, у якой частка зместу непасрэдна адлюстроўвае (з большым альбо меншым каэфіцыентам падабенства) матэрыяльнае і культурнае асяроддзе, станы рэчаў, якія суадносяцца ў грамадстве з агульнымі, групавымі альбо індывідуальнымі нормамі, разглядаюцца як магчымыя альбо немагчымыя напрамкі развіцця падзей у грамадскім, духоўным ці матэрыяльным жыцці. Літаратура як крыніца ведаў аб жыцці выконвае ў грамадстве акумулятыўную функцыю і выступае часткай сацыяльнай памяці. Менавіта гэты бок літаратуры і цікавіць М.Задэнцкую ў творах пісьменнікаў-эмігрантаў, менавіта фактуальную інфармацыю яна і «вылушчвае» з літаратурных тэкстаў.

Асобнае месца займаюць у кнізе рэфлексіі наконт адносін паміж польскай часткай насельніцтва «крэсовых» тэрыторый (дробнамаянтковай шляхтай, альбо «дворам») і мясцовым беларускім людам. Ф.Чарнышэвіч паказаў, што шляхта дзялілася на тых, хто імкнуўся жыць разам з беларускім народам у згодзе і справядлівасці, аднаўляць адзіную айчызну — Рэч Паспалітую, і тых, хто ў адносінах да беларускага насельніцтва заходваў варожасць і пагарду. У аповесці «Wicik Żywica» багатая шляхта супрацьвіцца аднаўленню Беларусі, хаця М.Задэнцкая лічыць, што тут Ф.Чарнышэвіч у пэўнай ступені адышоў ад гістарычнай праўды — яна, у прыватнасці, спасылаецца на групу «краёўцаў» пад кіраўніцтвам Р.Скірмунта, якая актыўна падтрымлівае ідэю адраджэння Беларусі.

М.Задэнцкая канцэнтруе ўвагу на тым, як адлюстраваны ў творчасці Міхала Паўлікоўскага (нарадзіўся ў 1893 г. на Меншчыне) адносіны паміж вёскай і дворам, асаблівая сацыяльная псіхалогія беларускага народа, элементы яго архаічнай ментальнасці, а таксама адносіны польскага і беларускага насельніцтва да інстытутаў расійскай дзяржавы (напрыклад, арміі, у якой ні беларусы, ні палякі на хацелі ваяваць).

Юзэф Мацкевіч (1902—1985) у кнізе рэпартажаў «Bunt rojstów» (1938) паказаў, як адзначае даследчыца, нестабільнасць становішча на тэрыторыі «крэсаў» — новае становішча (у прыватнасці — новы падзел тэрыторыі) пасля польска-савецкай вайны 1920—1921 гг. Гэта парушыла раней усталяваныя гандлёвыя і эканамічныя сувязі, не адпавядала настроям і волі беларускага насельніцтва, якое з недаверам адносілася да польскіх адміністрацыйных службаў. З другога боку, «крэсы» былі для польскіх чыноўнікаў тэрыторыяй другога сорту. Рыжскі дагавор 1921 г. Ю.Мацкевіч лічыў памылковым — ён прывёў да штучнага падзелу зямель, што негатыўна праявілася як у гаспадарчым, так і ў грамадскім жыцці «крэсаў». Ю.Мацкевіч, піша М.Задэнцкая, адзначаў розніцу ў адносінах цэнтра і «крэсаў» да царскай Расіі: антырускі і антыбальшавіцкі стэрэатып, які быў у палякаў, адсутнічаў сярод беларускага насельніцтва, якое, хутчэй, спачувальна адносілася да бальшавікоў.

Асаблівасць духоўнай культуры «крэсаў», як яна ўяўляецца ў творчасці польскіх пісьменнікаў-эмігрантаў, — яе архаізм і сувязь элементаў, якія належаць да розных эпох. Гістарычныя падзеі мала змянілі гэту духоўную культуру, таму, зазначае М.Задэнцкая, перад многімі аўтарамі стаяла праблема выбару: альбо кваліфікаваць яе як прымітыўную, альбо імкнуцца да яе захавання як унікальнага рэліктавага феномена.

Калектыўная памяць, піша ў заключэнне М.Задэнцкая, карыстаецца заўсёды больш-менш дакладнымі схемамі і стэрэатыпамі, якія маюць інструментальную, мнематэхнічную функцыю, а значыць — у пэўнай ступені аўтаматызуюць чалавечае ўспрыняцце гісторыі. Але разам з гэтым павінна існаваць магчымасць вяртання да спраў і падзей, якія на нейкі час адышлі ў нябыт. Гэту магчымасць адкрывае перад грамадствам літаратура. Толькі такое вяртанне дапаможа ўдакладніць памылковыя альбо ўстарэлыя тлумачэнні, толькі яно — гарант паспяховага і своечасовага разумення новых гістарычных падзей.

**Алесь КІКЛЕВІЧ,**
**доктар філалагічных навук.**

Выставы Выставы

# Чым хата багата

У мастацкай галерэі Менскага абласнога цэнтра народнай творчасці (будынак бібліятэкі імя А.С.Пушкіна) адбылося адкрыццё выставы пад красамоўнай назвай «Чым хата багата», якая знаёміць з мастацкімі і літаратурнымі скарбамі настаўніцкай сям'і Пестуноў з вёскі Сваткі Мядзельскага раёна. У экспазіцыі выставы нарачанскія — каларытныя і жыццярадасныя — пейзажы таленавітага мастака-аматара Барыса Сцяпанавіча Пестуна, узоры ткацтва яго жонкі Вольгі Іванаўны, а таксама аўтографы знакамітых дзеячаў беларускай культуры: Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Максіма Танка, Ніла Гілевіча, Івана Навуменкі, Івана Шамякіна, Алега Лойкі, Анатоля Вярцінскага, Вячаслава Адамчыка, Вячаслава Рагойшы, Міколы Ермаловіча, Паўліны Мядзёлкі, якія шмат разоў і ў розны час наведвалі Сваткаўскую сярэднюю школу і хату мастака.

Аглядаючы скарбы «куфра» вясковых настаўнікаў, знаёмячыся з аўтографамі пісьмаў і даравальных надпісаў на кнігах, пачынаеш разумець сутнасць гэтай незвычайнай дружбы, якая доўгія гады звязвала сваткаўскую інтэлігенцыю з духоўнай элітай беларускай нацыі. Яна, перш за ўсё, — ад каранёў беларушчыны, ад той любові да краю, якой паяднаны абодвы бакі. Інакш не адбылося б працяглае сяброўства Барыса Пестуна з Максімам Танкам і не ўспыхнулі б бацькоўскай любоўю пачуцці Васіля Быкава да вучня Сваткаўскай школы, а затым яе настаўніка Міколы Пашкевіча — «вялікага энтузіяста беларускай культуры», як пісаў аб ім народны пісьменнік, памяці якога, дарэчы, ён і прысвяціў сваю аповесць «Абеліск». Адзначу, што выстава вылілася яшчэ і ў сямейнае свята мастака, паколькі яму ў гэтыя дні «стукнула» семдзесят гадоў. Барыса Сцяпанавіча шчыра віншавалі і віталі яго землякі-медзяльчукі і калегі па творчым рамястве народная артыстка рэспублікі Марыя Захарэвіч, народны мастак рэспублікі, рэктар акадэміі мастацтваў Беларусі Васіль Шарангові, начальнік аддзела культуры аблвыканкама Валерый Гідровіч, загадчык аддзела культуры Мядзельскага раёна Анатоль Шаранговіч, мастак і пісьменнік Адольф Барановіч, заслужаны дзеяч мастацтва Уладзімір Лобанаў, блізкія і родныя. Ад Міністэрства культуры слова брала Алена Боганева, а ад Беларускага дзяржаўнага архіва-музея Ганна Запартыка. Выступоўцы адзначалі, што творы Барыса Сцяпанавіча напісаны з любоўю да чароўнай прыроды роднай Мядзельшчыны, выяўляюць еднасць творцы са сваім народам і яго гісторыяй — «з усім тым, што было да нас і што будзе пасля нас», як выказаўся зямляк юбіляра родам з вёскі Мікольцы. Нібы падсумаваннем усяму сказанаму сталі словы Васіля Шаранговіча: «У творчасці Барыса Пестуна мы бачым любоў да сваёй зямлі, а гэта самае галоўнае, першаснае ў любой творчасці. І толькі з гэтым пачуццём з'яўляецца творца ў мастацтве, толькі з гэтым пачуццём ён патрэбны людзям, і толькі тады, калі ён можа праявіць лепшыя якасці сваёй душы».

Прыемнай неспадзяванкай для карэспандэнта газеты стала прызнанне Барыса Сцяпанавіча, што ён — сталы чытач «Нашага слова».



**— Барыс Сцяпанавіч, выстава, якая падводзіць вынікі Вашай творчай дзейнасці і на якую сёння прыйшлі такія славутыя людзі, мне вельмі спадабалася. Шчыра віншую з заслужаным поспехам. Вы, аказваецца, сталы чытач нашай газеты?**

— Шчыра дзякую за віншаванні, за добрыя словы. Мастацтвам я займаюся даўно, але на любімы занятак, калі працаваў настаўнікам і дырэктарам Сваткаўскай школы, не хапала часу. Затое сёння аддаюся гэтай справе цалкам. Сапраўды, я сталы чытач вашай газеты — ад яе першага нумару. Мая Вольга Іванаўна акуратна яе падшывае і бережна захоўвае. Матэрыялы ў газеце змяшчаюцца цікавыя, і для нашых вясковых душ яна якаясьці свая: родная, блізкая, зразумелая. Можа яшчэ і таму яе хочацца чытаць, што газета — орган Таварыства беларускай мовы, а Ніл Гілевіч, старшыня Таварыства, не раз бываў у нашай школе.

**— На жаль, наша газета сёння, як кажуць, «вісіць на валаску». Хацелася б, каб чытачы, такія самыя шчырыя беларусы, як і Вы, яе больш падтрымлівалі. Дарэчы, Ваша беларускасць — якасць прыроджаная?**

— Мой бацька, дзед і прадзед былі беларусамі. То якім жа мне тады быць? На якой мове гаварыць? Я на Мядзельшчыне нарадзіўся, вырас, хадзіў у школу і 47 гадоў адпрацаваў настаўнікам. Я магу ў Варшаве пагаварыць па-польску (у польскай школе я вучыўся), а ў Маскве — па-расійску. А тут навошта сябе ламаць?

**— Якія Вашы творчыя планы?**

— Колькі буду жыць, заўсёды буду маляваць Мядзельшчыну. А зараз яшчэ раз хачу вярнуцца да вашай газеты. Жадаю вам перажыць усе цяжкасці і застававацца надалей фактам нашай культуры. Газета патрэбная. Яна адна з тых, якая дае адчуванне, што ты ёсць беларус і што табе на гэта не трэба забываць.

**Падрыхтавала Ірына КРЭНЬ.**

**На здымку:** паэт **Сяргей Грахоўскі** гутарыць з аўтарам выставы **Барысам Пестуном.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## І смех і грэх

### Пачутае «У Лявона»

**Цяжкая праца**

Сустрэліся ў шынку сяброўкі, што даўно не бачыліся:

— Ты дрэнна выглядаеш. Мабыць,ператамілася на працы. Чым ты цяпер займаешся?

— Нічым...

— А ў якім міністэрстве?

**Рэцэпт шчасця**

— Шчасце, каханенькая-родненькая, — павучае бывалец шынка маладую суседку, — заснуваецца не на тым, што робіш тое, на што маеш ахвоту, а на тым, што маеш ахвоту на тое, што робіш.

**Няма месца**

Шынок «У Лявона» наладзіў курсы для маладых жонак. Самы лепшы кухар павучае іх, як рыхтаваць фаршыраваную курыцу.

— Трэба ўзяць 100 грамаў сала, 2 яйкі, 100 грамаў мукі, 50 грамаў шампіньёнаў або 100 грамаў рысу, 50 грамаў масла, вараную курыную пячонку, цёртую булку, зялёную пятрушку, соль, адзін лімон... Робіце фарш... Пасля таго, як фарш напхаеце ў сярэдзіну, курыцу зашываеце...

— Шаноўны, — звяртаецца да яго адна маладзіца, — ці ўлезе ўсё гэта ў курыцу, там жа і на адно яйка няма месца?

**Добрае чула**

Госця шынка фліртуе з маладзёнам:

— О, я пра вас так шмат добрага чула, прыкладам, што пан нежанаты...

**Выбар**

Маці размаўляе з кавалерам сваёй дарослай дачкі:

— Ці магу я запытацца, якія ў вас да мае дачушкі намеры: сур'ёзныя ці не?

— А ці магу выбіраць?

**Спосаб**

Да доктара, які завітаў у шынок, звяртаецца маладзіца:

— Доктар, міленькі, парайце, якія практыкаванні трэба рабіць, каб пахудзець?

— Трэба круціць галавою ўправа і ўлева.

— А як часта?

— Кожны раз, калі вас хочуць чым-небудзь пачаставаць.

**Запісаў З.С.**

### Афарызмы

Усе не могуць бачыць праўды, але ўсе могуць ёю быць.

*Франц Кафка.*

З нагоды, што свет незразумелы, чакаю, што нехта мне яго вытлумачыць (выясніць).

*Эжэн Ёнэска.*

Калі б мяне спыталі, чым з'яўляецца джаз, не атрымалі б здавальняючага адказу.

*Луіс Армстронг.*

Манеры — гэта люстэрка, у якім кожны паказвае свой твар.

*Вольфганг Гётэ.*

Чакай; мужчыны ніколі чакаць не хочуць.

*Уільям Шэкспір.*

Якая гэта цудоўная рэч маладосць! Але якое гэта злачынства дазволіць яе марнаваць маладым!

*Бернард Шоу.*

Гаварыць не думаючы, гэта страляць не цэлячы.

*Сервантэс.*

Я з тых, каго людзі не любяць, але з тых, каго памятаюць.

*Персі Бісі Шэлі.*

Вялікі чалавек — гэта той, хто пасля смерці становіцца клопатным для іншых.

*Поль Валеры.*

Хочаш, каб добра пра цябе гаварылі? Не гавары сам!

*Блэз Паскаль.*

Пагарда да шэрасці не азначае зусім, што ўзвышаешся над ёю.

*Ірвін Стоўн.*

Нішто, выключаючы пройгрыш, не з'яўляецца такім меланхалійным, як перамога.

*Артур Велінгтон.*

### У старых фаліянтах

## Пан Бог дапаможа

Перад святам Пасхі да рабіна прыйшоў адзін габрэй папрасіць парады.

— Рэбе, — сказаў ён са слязьмі на вачох, — я апынуўся ў страшэннай сітуацыі. Набліжаецца свята Пэйсах, а я не ведаю, што мне рабіць. Не маю грошай на мацу, не маю грошай на віно, што прадпісвае наша рэлігія, не маю ў чым паказацца ў сінагозе, бо і я, і мая жонка, і мае дзеці ходзім у лахманах. Адным словам, на мяне зваліласяя тысяча клопатаў.

— Не кідайся ў роспач, — суцешыў яго рабін. — Пан Бог табе дапаможа.

— Рэбе, — заплакаў габрэй, — якім чынам? Мне ж спойніць усё гэта не па сілах.

— Не панікуй, зараз падрахуем, колькі і чаго табе трэба на свята. Скажы мне, колькі табе трэба на мацу, віно і ўвогуле на святочны стол?

— Я думаю, хіба з 25 залатовак.

— Добра. А колькі табе трэба на адзенне дзецям?

— Я думаю, што нейкіх з 30 залатовак, — адказаў бядняк.

— А на сукенку для тваёй жонкі?

— Сама меней з 20 залатовак.

— А на ўбор сабе?

— Не меней, як 20 залатовак.

Тут рабін, які ўвесь час запісваў выдаткі бедняка, падсумаваў іх і сказаў:

— Значыцца так. На ўсё разам табе трэба нейкіх 95 залатовак. Бачыш, цяпер ты ўжо не маеш тысячы клопатаў пра харчы, мацу, віно, строі для ўсёй сям'і. Зараз ты маеш толькі адзін клопат: дзе здабыць 95 залатовак?

**Вычытаў Алег ДЫШЛЕВІЧ.**

### Пародыі

***Янусь МАЛЕЦ***

## Раскажы!

*О Гасподзь!*
*Каму якая справа ў гэтым свеце:*
*Чым я тручу сябе, як паміраю*
*За вусцішнай шматколернаю шторай*
*На кухні, дзе павінна быць*
*АКНО.*

**Леанід Галубовіч.**

**Леанід!**
О, раскажы, чым ты сябе там труціш?
Так напісаў — я двое сутак плакаў!
Ці на іголку ўздумаў, можа, сесці,
Ці стаў глушыць ты таннае
ВІНО.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька — адказны сакратар, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 390

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 3182 паасобнікі
Падпісана ў друк 8.04.1996 г.
у 15 гадзін.